● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

24 лістапада 1998 г. аўторак, № 229 (23580)





# ЗВЯЗДА

*ЗДАРЭННІ*

## ВЫБУХ НА ВУЛІЦЫ ЗАСЛАЎСКАЙ...

### Дырэктару Стаўбцоўскага цаглянага завода давядзецца пахадзіць пешшу

**Раніцай 23 лістапада жыхароў дома №12 на вуліцы Заслаўскай у Мінску разбудзіў моцны выбух. «Ірванула» стаяўшая пад вокнамі дома аўтамашына «Волга».**

Як удалося даведацца карэспандэнту «Звязды», аўтамабіль належыць дырэктару Стаўбцоўскага цаглянага завода спадару Г. Ён прыехаў у госці да сваёй дачкі. Пераначаваў. А раніцай сабраўся ад'язджаць. Завёў рухавік аўтамабіля і... праз некалькі хвілін грымнуў выбух. На шчасце, ніхто з людзей не пацярпеў. На месца здарэння тут жа выехала міліцыя.

Спачатку ў следства ўзнікла версія аб магчымым «тэракце» ў адносінах да дырэктара завода. Да таго ж дом №12 лічыцца «элітным», тут пражываюць многія ўплывовыя асобы, дзелавыя людзі і нават некаторыя дыпламатычныя работнікі.

Па звестках «Звязды», на месца здарэння раніцай прыязджаў нават першы намеснік міністра ўнутраных спраў Міхаіл Удовікаў.

Аднак у другой палове дня праваахоўныя органы вылучылі версію, згодна з якой прычынай выбуху маглі стаць тэхнічныя непаладкі ў аўтамабілі. Праўда, на момант падрыхтоўкі публікацыі гэтая версія пакуль не была канчаткова пацверджана экспертызай.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## ... І Ў КАЗЛОВІЧАХ

**Некаторыя здарэнні, якія зараз адбываюцца ў рэспубліцы, напрамую звязаны з марозным надвор'ем. Часам цалкам зразумелае жаданне цяпла ў сённяшнія халады заканчваецца чалавечымі ахвярамі.**

Адзін з апошніх выпадкаў зарэгістраваны ў вёсцы Казловічы Брэсцкага раёна. Там а палове дзесятай раніцы ля мясцовага магазіна прагучаў выбух: многія маглі падумаць, што зламыснікі выбралі гандлёвую кропку для нападу. Аднак усё было куды больш празаічна — узарваўся кацёл у прыбудове магазіна і памяшканні кацельні.

Як высветлілася, выбух адбыўся з-за замярзання цепланосьбіта ў сістэме ацяплення — узарваўся цвёрдапаліўны кацёл. Качагар, які знаходзіўся ў памяшканні, загінуў. На гэты раз абышлося без іншых ахвяр: асноўны ўдар на сябе прынялі сцены кацельні.

У вёсцы Гортыль Івацэвіцкага раёна ахвярай агню стаў калгаснік, якога смерць напаткала ў бытоўцы кармавога цэха фермы калгаса імя Куйбышава. Мужчына не змог вырвацца з палаючага памяшкання.

**Ігар ГРЫШЫН.**

# АКЦЯБРСКІ: З НАДЗЕЯЙ І АПТЫМІЗМАМ



**У Акцябрскім раёне жыць сёння няпроста. А дзе зараз лёгка? Але, мяркуючы па людзях, гэты прыгожы куточак Беларусі губляць сваю непаўторнасць і ўтульнасць не збіраецца. Нягледзячы на даволі сціплы сёлетні ўраджай (такое ўжо выдалася надвор'е), зіму тут сустракаюць з аптымізмам, спадзеючыся на ўласныя сілы і вопыт. Не памылімся, калі скажам, што ўпэўненасць у сваіх магчымасцях з'яўляецца, відаць, ці не асноўнай рысай мясцовых жыхароў. І прыходзілі яны на сустрэчы падчас «выязной прыёмнай» менавіта з уласнымі прапановамі (у прыватнасці, абвясціць праз нашую газету конкурс ідэй наконт таго, якім чынам вярнуць страчаныя ўклады насельніцтва ў Ашчадбанку), спрабавалі разам з журналістамі «Звязды», прадстаўнікамі Федэрацыі прафсаюзаў, міністэрстваў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, сацыяльнай абароны і аховы здароўя знайсці пэўныя адказы на тыя няпростыя пытанні, якія паўстаюць перад людзьмі ледзь не штодня.**

*( Глядзі 4-5 стар. )*

*СКАНДАЛ*

## УКРАДЗЕНЫ КРЭДЫТ

### Начальнік крэдытнага аддзела аднаго са сталічных філіялаў «Беларусбанка» знікла з 7 мільярдамі рублёў

**Крэдыты ў нашай краіне не толькі выманьваюць, не вяртаюць, але і самым нахабным чынам крадуць.**

Нядаўна супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС Беларусі ўзбудзілі крымінальную справу па падазрэнню ў крадзяжы грашовых сродкаў начальнікам аддзела крэдытавання юрыдычных асоб аднаго з мінскіх філіялаў ААБ «Беларусбанк». А падзеі развіваліся наступным чынам.

Мінскі малаказавод №2 атрымаў у «Беларусбанку» крэдыт. Першую частку крэдыту заводу пералічылі. Астатнія грошы прадпрыемства не дачакалася. Як жа былі здзіўлены кіраўнікі завода, калі ім паведамілі, што па дакументах банк прадаставіў ім крэдыт у поўным аб'ёме. Вядома ж, адміністрацыя прадпрыемства звярнулася ў праваахоўныя органы.

Пачалося следства, якое і высветліла, што начальнік крэдытнага аддзела аднаго з мінскіх філіялаў «Беларусбанка» спадарыня К. (прозвішча да заканчэння следства міліцыя трымае ў сакрэце) падрабіла фінансавыя паперы, згодна з якімі крэдыт у памеры больш за 7 мільярдаў рублёў быў нібыта выдзелены мінскаму малаказаводу №2. На самай жа справе гэтыя грошы былі пералічаны на рахунак адной з нелегальных фінкампаній і абнаяўлены ў свабодна канверсоўнай валюце. Гэта, дарэчы, па звестках «Звязды», даволі распаўсюджаная схема «пракручвання» крэдытных грошай, якой карыстаюцца некаторыя нядобрасумленныя банкаўскія служачыя. Пасля такой «пракруткі», дзякуючы ўсё той жа розніцы паміж афіцыйным і міжбанкаўскаму курсам валют, махінатары атрымліваюць неблагі «навар». Прычым рызыка трапіць за краты не такая ўжо і вялікая, паколькі рублёвы крэдыт пасля «пракручвання» накіроўваецца па прызначэнню. Але ў дадзеным выпадку планы спадарыні К. былі парушаны супрацоўнікамі ўпраўлення па эканамічнай злачыннасці МУС Беларусі, якія актыўна вядуць барацьбу з падпольнымі фінкампаніямі. Схема «пракручвання» была рассакрэчана, і работніца банка, прыхапіўшы грошы, кудысьці знікла. Міліцыя займаецца яе вышукам.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 554

### АБ АДТЭРМІНОЎЦЫ ВЫПЛАТЫ МЫТНАЙ ПОШЛІНЫ І ПАДАТКУ НА ДАБАЎЛЕНУЮ ВАРТАСЦЬ

У мэтах стымулявання вытворчасці і экспарту прадукцыі, удасканалення знешнеэканамічнай дзейнасці **пастанаўляю:**

1. Пры мытным афармленні камплектуючых, запасных частак, матэрыялаў і сыравіны, што ўвозяцца ў Рэспубліку Беларусь для вырабу экспартнай прадукцыі, мытнымі органамі ў парадку, які вызначае Дзяржаўны мытны камітэт па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў, прадастаўляецца адтэрміноўка выплаты мытнай пошліны і падатку на дабаўленую вартасць да шасці месяцаў з дня выпуску гэтых тавараў для свабоднага абарачэння, без выплаты працэнтаў за яе выкарыстанне.

У выпадку вывазу гэтых тавараў у саставе гатовай прадукцыі ў названы тэрмін за межы мытных тэрыторый Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі мытная пошліна і падатак на дабаўленую вартасць не спаганяюцца.

Пры невыкананні ўмоў адтэрміноўкі, прадугледжаных у гэтым пункце, мытная пошліна і падатак на дабаўленую вартасць спаганяюцца мытнымі органамі са збіраннем пені з дня заявы тавараў у рэжыме выпуску для свабоднага абарачэння ў памеры і ў парадку, устаноўленых Мытным кодэксам Рэспублікі Беларусь.

Камітэту дзяржаўнага кантролю абагульняць практыку прымянення мытных і падатковых ільгот, прадастаўленых у гэтым пункце, і аб эфектыўнасці іх выкарыстання перыядычна інфармаваць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у 2-месячны тэрмін прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь і забяспечыць прывядзенне нарматыўных актаў міністэрстваў, іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання ў адпаведнасць з гэтым Указам.

3. Прызнаць страціўшымі сілу:

Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 19 красавіка 1995 г. № 151 «Аб некаторых пытаннях мытнага рэгулявання» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 16, арт.358; 1996 г., № 9, арт.220; Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 36, арт.970);

абзац шосты пункта 9 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16 жніўня 1995 г. № 300 «Аб выплаце падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў пры ўвозе тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 24, арт.562).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*20 лістапада 1998 г., г. Мінск.*

## ДЭКРЭТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 19

### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯ Ў ДЭКРЭТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 9 ВЕРАСНЯ 1997 г. № 16

У адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю:**

1. Частку другую падпункта 1.7 пункта 1 Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 9 верасня 1997 г. № 16 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню матэрыяльнага і сацыяльнага забеспячэння служачых дзяржаўнага апарату і прыраўнаваных да іх асоб» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 25, арт. 842) выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Пенсія за выслугу гадоў дзяржаўным служачым назначаецца ў памеры 50 працэнтаў заработнай платы за любыя 5 гадоў запар з апошніх 15 гадоў работы на пасадах, якія даюць права на пенсію за выслугу гадоў, але не менш за мінімальны памер пенсіі па ўзросту. За кожны поўны год работы ў якасці дзяржаўнага служачага пасля дасягнення мужчынамі ўзросту 55 гадоў, жанчынамі — 50 гадоў (пры стажы работы ў якасці дзяржаўнага служачага не менш за 20 гадоў) памер названай пенсіі павялічвацца на 4 працэнты заработнай платы, але не больш чым на 20 працэнтаў.

Заработная плата для вылічэння пенсіі за выслугу гадоў у частцы, якая не перавышае дзесяціразовай мінімальнай заработнай платы, улічваецца цалкам, а астатняя частка — у памеры 50 працэнтаў. Пры гэтым памер заработнай платы, з якой вылічваецца пенсія за выслугу гадоў, не можа перавышаць двухразовага памеру сярэдняй заработнай платы ў рэспубліцы, прымяняемай у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні» для пераразліку пенсій у сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы».

2. Гэты Дэкрэт уступае ў сілу з 1 снежня 1998 г., з'яўляецца часовым і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадстаўляецца на разгляд Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*19 лістапада 1998 г., г.Мінск.*

## РЭСПУБЛІКАНСКІ ШТАБ ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РАЗГЛЕДЗЕЎ ПЕРАЛІК ЧАРГОВЫХ НЕАДКЛАДНЫХ ПЫТАННЯЎ

**Пытанні работы ўрада, іншых органаў дзяржаўнага кіравання па насычэнню спажывецкага рынку, забеспячэння насельніцтва і медустаноў медыкаментамі, дзейнасць Мінфіна былі ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў чарговага пасяджэння Рэспубліканскага штаба пры прэзідэнце краіны, якое адбылося 20 лістапада. Яно прайшло пад кіраўніцтвам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча.**

У пасяджэнні прынялі ўдзел намеснік прэм'ер-міністра Аляксандр Папкоў, старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч, Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь Алег Бажэлка, старшыня Вярхоўнага суда Валянцін Сукала, старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда Уладзімір Бойка, намеснік старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Канстанцін Сумар, начальнік Галоўнага дзяржаўна-прававога ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандр Пласкавіцкі.

Інфармацыю па насычэнню харчовага рынку і праблемы ў аграрным ведамстве выклаў міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Іван Шакола. Ён падкрэсліў неабходнасць карэннага фінансавага аздараўлення галіны. На сённяшні дзень АПК аблытаны даўгамі, сума якіх вылічваецца 25-ю трыльёнамі рублёў. Востра паўсталі пытанні забеспячэння прадпрыемстваў пшанічнай мукой для хлебапячэння, вытворчасці малака, мяса, яек, іншай прадукцыі.

Разумеючы ўсю складанасць сітуацыі, урад прыняў рашэнне падтрымаць вяскоўцаў і перапрацоўшчыкаў. Для іх адкрыта крэдытная лінія ў 2,5 трыльёна рублёў. Прымаецца і шэраг іншых пазітыўных мераў падтрымкі. Вёска, адзначыў Іван Шакола, пакуль што марудна, але з дастатковай доляй упэўненасці пачынае выходзіць з крызіснай сітуацыі.

Міністр і ўдзельнікі пасяджэння вызначылі прыярытэты ў дзейнасці агракомплексу на бліжэйшы час. Перш за ўсё гэта строгае вытрымліванне памесячных паставак прадукцыі гарадам у лістападзе і снежні, упарадкаванне цэн на сельгаспрадукцыю, а таксама вызначэнне найбольш стратэгічных напрамкаў развіцця сельскай глыбінкі.

Удзельнікі пасяджэння ўважліва разгледзелі таксама пытанне аб насычэнні нашых аптэк і бальніц неабходным пералікам медыкаментаў. Былі вывучаны праблемы, звязаныя з закупкамі медпрэпаратаў за мяжой і ўпарадкавання іх размеркавання сярод усіх катэгорый грамадзян.

Штаб таксама прыняў да ведама інфармацыю аб дзейнасці Міністэрства фінансаў. Па ўсіх пунктах парадку дня вынесены неабходныя рашэнні.

**Алег ШВЕДАЎ, БЕЛТА.**

## ДА ВЕДАМА ЧЛЕНАЎ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

26 лістапада 1998 года ў 10.00 у Авальнай зале Дома ўрада адбудзецца сумеснае пасяджэнне Савета Рэспублікі і Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь для пытанняў членаў Савета Рэспублікі і дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і адказаў урада.

26 лістапада 1998 года ў 14.00 у зале пасяджэнняў Савета Рэспублікі (вул. Чырвонаармейская, 4) прадоўжыць работу пятая сесія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

## *БЕЛАРУСКАМУ САЮЗУ МАСТАКОЎ*

Сардэчна віншую майстроў выяўленчага мастацтва краіны са знамянальнай датай — 60-годдзем утварэння Беларускага саюза мастакоў.

За гэтыя дзесяцігоддзі ўсе буйнейшыя гістарычныя падзеі ў жыцці нашай Айчыны атрымлівалі адлюстраванне ў творчасці майстроў розных пакаленняў. Мастакоў Бацькаўшчыны заўжды аб'ядноўвала шчодрая любоў да Зямлі беларускай і да яе Чалавека — гуманіста, працаўніка, воіна, які здабыў у жорсткіх баях свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы.

Лепшыя творы беларускіх майстроў выяўленчага мастацтва сталі не толькі трывалым падмуркам маральнага і эстэтычнага выхавання народа, але і інтэлектуальнымі «паўпрэдамі» нашай рэспублікі ў краінах блізкага і далёкага замежжа.

Традыцыі і наватарства, прафесіяналізм і высокая пластычная культура, сардэчнасць мастакоўскай інтанацыі і эмацыянальнасць пачуццяў — вось тыя адвечныя краевугольныя камяні творчай свядомасці беларускіх майстроў, якія зрабілі наша нацыянальнае мастацтва непаўторным і пазнавальным у вірлівым акіяне сусветных мастацкіх працэсаў.

Дарагія сябры, жадаю вам новых дасягненняў, натхнёнай творчай працы, добрага здароўя і шчасця.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

## АДКРЫТА ДАРОГА ДА СУМЕСНАЙ РАБОТЫ БЕЛАРУСІ З ЕЎРАПЕЙСКІМ САЮЗАМ

Удзел нашай краіны ў форумах Цэнтральна-Еўрапейскай Ініцыятывы (ЦЕІ) нельга недаацэньваць. Вопыт работы ў гэтым субрэгіянальным аб'яднанні еўрапейскіх дзяржаў дае шанц выкарыстаць унікальную магчымасць данесці да нашых патэнцыяльных партнёраў поўную інфармацыю аб Беларусі. Цяпер гэта вельмі важна. Аб гэтым заявіў прэм'ер-міністр рэспублікі Сяргей Лінг, падводзячы вынікі знаходжання на саміце кіраўнікоў урадаў дзяржаў — членаў Цэнтральна-Еўрапейскай Ініцыятывы, які прайшоў 20-21 лістапада ў Заграбе (Харватыя).

Важным аспектам дзейнасці ЦЕІ прэм'ер-міністр лічыць таксама сумесныя намаганні па аказанню дапамогі краінам, якія сутыкнуліся з найбольшымі цяжкасцямі ў сацыяльным развіцці. Стабілізацыя становішча ў іх з'яўляецца важнай умовай забеспячэння бяспекі ў рэгіёне. Часта, і гэта асабліва датычыць ЦЕІ, дапамога для арганізацыі самадапамогі мае найбольшую каштоўнасць. Прыклад таго — беларуска-чэшскае супрацоўніцтва пры ўдзеле Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця ў галіне перадачы перадавога вопыту рэфарміравання сельскай гаспадаркі з акцэнтам на экалагічныя аспекты. Мэта гэтага супрацоўніцтва — стварэнне ў Гомельскай вобласці, якая найбольш пацярпела ад чарнобыльскай аварыі, пастаянна дзеючага Цэнтра перадавога кіраўніцкага вопыту.

Як бы асобнай старонкай знаходжання ўрадавай дэлегацыі нашай краіны ў Заграбе сталі двухбаковыя сустрэчы. За два дні Сяргей Лінг правёў перагаворы з віцэ-канцлерам Аўстрыі, Старшынёй Савета Міністраў Еўрапейскага саюза Вольфгангам Шуселем, прэм'ер-міністрамі Украіны, Харватыі, Босніі і Герцагавіны.

Напэўна, самае вялікае значэнне мае сустрэча кіраўніка беларускага ўрада з Вольфгангам Шуселем. Як сказаў Сяргей Лінг у інтэрв'ю беларускім журналістам, Шусель адкрыта выказаў пазіцыю Еўрасаюза ў адносінах да Беларусі. З боку ЕС зроблены пэўны крок насустрач нашай краіне, ды і сам факт праведзенай сустрэчы адкрывае дарогу да сумеснай сур'ёзнай работы.

Што датычыць іншых двухбаковых сустрэч, то, паводле слоў Сяргея Лінга, на іх у асноўным абмяркоўваліся праблемы, якія датычаць пашырэння прававой базы, абмену інфармацыяй аб стане эканомік і магчымых сумесных праектаў. «Перыяд рамантызму мінуў, усе разумеюць, што неабходна аднаўляць старыя рынкі збыту сваіх тавараў, якія да таго ж вельмі патрэбны краінам-партнёрам. Калі гандлююць, няма часу ваяваць. Гэта адказ на многія палітычныя пытанні», — сказаў Сяргей Лінг. Паводле яго слоў, былі дасягнуты дамоўленасці аб правядзенні сустрэчы дзелавых колаў Беларусі і былых югаслаўскіх рэспублік, а вясной наступнага года, магчыма, на Балканах пройдзе выстаўка нацыянальнай прадукцыі нашай краіны.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

## РАШЭННЕ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 6

### АБ ЗАБЕСПЯЧЭННІ СПАЖЫВЕЦКАГА РЫНКУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ХАРЧОВЫМІ ТАВАРАМІ

1. Адзначыць, што ў студзені-кастрычніку 1998 г. у аграпрамысловым комплексе рэспублікі забяспечана нарошчванне вытворчасці і рэалізацыі асноўных відаў сельскагаспадарчай прадукцыі. Узрасла пастаўка на спажывецкі рынак мяса- і малакапрадуктаў, ва ўстаноўленых аб'ёмах створаны запасы на міжсезонны перыяд масла, сухога малака, тварагу, сыроў цвёрдых, плодаагароднінная прадукцыі і бульбы.

Разам з тым Мінсельгасхарчам, канцэрнам «Белдзяржхарчпрам» не прыняты дастатковыя меры па забеспячэнню сыравінай перапрацоўчых прадпрыемстваў, што прывяло да скарачэння вытворчасці і пастаўкі на рынак маргарынавай прадукцыі, мыла, алею, вінаградных він.

Мінгандлем, Белкаапсаюзам, Мінсельгасхарчам, аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам не прыняты належныя меры па своечасоваму задавальненню попыту на прадукты харчавання апошнім часам, што прывяло да перабояў у гандлі асобнымі відамі мясной і малочнай прадукцыі, цукрам, яйцом, мясам птушкі.

2. Аблвыканкамам, Мінскаму гарвыканкаму, Мінсельгасхарчу, Мінгандлю, Белкаапсаюзу неадкладна ажыццявіць комплекс арганізацыйных і фінансава-эканамічных мераў па адшуканню і пастаўках гандлёвым прадпрыемствам неабходнай колькасці харчовых прадуктаў.

3. Аблвыканкамам, Мінскаму гарвыканкаму, Мінсельгасхарчу забяспечыць закупкі харчовай пшаніцы для бесперабойнага забеспячэння насельніцтва хлебабулачнымі і макароннымі вырабамі, мукой за кошт максімальнага прыцягнення наяўных рэсурсаў у гаспадарках, а таксама закупак яе па імпарту.

4. Лічыць мэтазгодным прадоўжыць тэрміны вяртання выдадзеных крэдытных рэсурсаў для сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і адтэрмінаваць плацяжы па іх.

Савету Міністраў і Нацыянальнаму банку ў лістападзе 1998 г. разгледзець гэта пытанне.

5. Нацыянальнаму банку:

з улікам раней прынятых рашэнняў ажыццяўляць прадпрыемствам аграпрамысловага комплексу па заяўках Мінсельгасхарча канверсацыю грашовых сродкаў у індывідуальным парадку для набыцця тавараў крытычнага імпарту.

Прызнаць мэтазгодным накіраванне Мінскім гарвыканкамам і аблвыканкамамі валютных сродкаў на першачарговае набыццё харчовай пшаніцы;

дазволіць нарыхтоўчым і перапрацоўчым прадпрыемствам праводзіць аплату за пастаўляемую калгасамі, саўгасамі і іншымі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі прадукцыю звыш дзяржаўнага заказу ў лік адкрытай крэдытнай лініі для разлікаў;

на працягу лістапада-снежня 1998 г. праканверсаваць прадпрыемствам РА «Белптушкапрам» грашовыя сродкі на суму 3,8 млн. долараў ЗША для закупкі фуражнай пшаніцы і кукурузы, бялковай сыравіны.

6. Савету Міністраў вырашыць пытанне аб пераходзе з 1 студзеня 1999 г. на планава-разліковыя закупачныя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю з такім разлікам, каб стымуляваць прыбытковую яе вытворчасць.

7. Мінфіну, Мінэканомікі, Мінсельгасхарчу, ДПК у тыднёвы тэрмін разгледзець і вырашыць пытанні забеспячэння валютнай самаакупнасці Мінскага завода шампанскіх він.

Нацыянальнаму банку праканверсаваць у лістападзе-снежні 1998 г. Мінскаму заводу шампанскіх він грашовыя сродкі на суму 400 тыс. долараў ЗША для закупкі вінаматэрыялаў.

8. Мінскаму гарвыканкаму прымаць меры па адшуканню і закупцы звыш дзяржаўнага заказу харчовых тавараў для забеспячэння імі насельніцтва горада.

9. Савету Міністраў у мэтах забеспячэння патрэбнасцяў рэспублікі ў цукры разгледзець і вырашыць пытанне аб закупках цукру-сырцу.

10. Мінсельгасхарчу, канцэрну «Белдзяржхарчпрам» арганізаваць закупку і пастаўку сыравіны харчовым прадпрыемствам для поўнай загрузкі наяўных магутнасцяў і пастаўкі на рынак прадукцыі, якую яны вырабляюць. Камітэту дзяржаўнага кантролю пракантраляваць выкананне.

11. Мінсельгасхарчу, аблвыканкамам забяспечыць арганізаванае правядзенне зімоўкі жывёлы, рацыянальнае выкарыстанне наяўных запасаў кармоў у мэтах недапушчэння зніжэння прадукцыйнасці жывёл і аб'ёмаў вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі.

Заслухаць у снежні 1998 г. справаздачы аб ходзе зімоўкі жывёлы Мінскага і Віцебскага аблвыканкамаў у Савеце Міністраў, а Гомельскага і Магілёўскага — у Камітэце дзяржаўнага кантролю.

12. Мінлясгасу, канцэрну «Беллесапераапрам» забяспечыць пастаўку прадпрыемствам «Белбіяфарм» драўніннай сыравіны ва ўзгодненых аб'ёмах для вытворчасці гідролізнага мікрабіялагічнага бялку.

13. Мінфіну, ДПК, Дзяржмытні, Мінэканомікі, Мінсельгасхарчу разгледзець і ўнесці ва ўстаноўленым парадку ўзгодненыя прапановы аб вызваленні ад выплаты мытных пошлін і падатку на дабаўленую вартасць увозімых у рэспубліку збожжа, бялковай сыравіны, прэміксаў, суперканцэнтратаў і ветпрэпаратаў для забеспячэння вытворчасці канкурэнтаздольнай прадукцыі жывёлагадоўлі.

14. Камітэту дзяржаўнага кантролю ажыццявіць кантроль за выкананнем гэтага рашэння.

**Кіраўнік Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь М. У. МЯСНІКОВІЧ.**

*20 лістапада 1998 г., г. Мінск.*

## РАШЭННЕ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 7

### АБ ЗАБЕСПЯЧЭННІ АПТЭК І ЛЯЧЭБНЫХ УСТАНОЎ РЭСПУБЛІКІ НЕАБХОДНЫМІ ЛЕКАВЫМІ СРОДКАМІ І МЕДЫЦЫНСКІМ АБСТАЛЯВАННЕМ

1. Адзначыць, што, нягледзячы на павелічэнне аб'ёму закупак лякарстваў за 9 месяцаў 1998 года ў адносінах да аналагічнага перыяду 1997 года на 27 працэнтаў, становішча з забеспячэннем лякарствамі аптэчных і лячэбных устаноў рэспублікі застаецца складаным. Пры гадавой патрэбнасці ў лякарствах на 150—170 млн. долараў ЗША закуплена іх на суму 3275,1 млрд. рублёў (80 млн. долараў ЗША). З-за абмежаваных магчымасцяў па канверсацыі беларускага рубля ўтварылася запазычанасць замежным пастаўшчыкам за раней пастаўленую і рэалізаваную прадукцыю.

Фармацэўтычная індустрыя рэспублікі не ў стане забяспечыць унутраны рынак лякарствамі, у тым ліку і па прычыне няхваткі валюты для закупкі фармацэўтычных субстанцый.

Плануемых сродкаў для набыцця лякарстваў лячэбнымі ўстановамі недастаткова. Запазычанасць мясцовых бюджэтаў прадпрыемствам сістэмы «Фармацыя» на 1 лістапада 1998 г. склала 69,5 млрд. рублёў.

Аб'ёмы закупак медыцынскай тэхнікі і абсталявання штогод павялічваюцца. У той жа час востра стаіць пытанне аб набыцці імпартных расходных матэрыялаў, рэагентаў, запасных частак і унікальнага лячэбна-дыягнастычнага абсталявання. Патрэбнасць у закупках па імпарту задавальняецца ў сярэднім на 40 працэнтаў.

2. Лічыць мэтазгодным:

2.1. распрацоўку і зацвярджэнне Саветам Міністраў гадавых балансаў патрэбнасці ў лякарствах за кошт увядзення заказу для дзяржаўных патрэб па іх закупцы ў айчынных вытворцаў, а таксама паставак па імпарту, прадугледзеўшы для гэтага крыніцы фінансавання;

2.2. у мэтах стабілізацыі становішча на рынку лякарстваў ажыццяўленне каардынацыі кіравання сістэмай лекавага забеспячэння і фармацэўтычнай вытворчасці.

3. Міністэрству аховы здароўя (І.Б.Зелянкевіч), генеральнаму дырэктару канцэрна «Белбіяфарм» (М.С.Шкутнік) у трохдзённы тэрмін удакладніць аб'ёмы паставак прадпрыемству «Фармацыя» лякарстваў айчыннай вытворчасці на лістапад-снежань 1998 г. і зацвердзіць гэтыя аб'ёмы ў Савеце Міністраў (У.П.Заматалін).

4.Нацыянальнаму банку:

4.1. узгадніць аплату закупак лякарстваў у беларускіх рублях па канкрэтных кантрактах, заключаных прадпрыемствам «Фармацыя»;

4.2. забяспечыць канверсацыю ў лістападзе-снежні 1998 г. названаму прадпрыемству 5 млн. нямецкіх марак звыш выдзеленай квоты для пагашэння запазычанасці за пастаўленыя замежнымі фірмамі лякарствы.

5. Прыняць да ведама, што намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Заматаліным У.П. будуць размеркаваны ў межах устаноўленай квоты валютныя сродкі для закупкі лякарстваў, фармацэўтычных субстанцый і медыцынскай тэхнікі.

6. Міністэрству аховы здароўя ва ўстаноўленым парадку па ўзгадненню з Нацыянальным банкам арганізаваць на базе дзяржаўных аптэк гандаль лякарствамі за замежную валюту.

**Кіраўнік Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь М. У. МЯСНІКОВІЧ.**

*20 лістапада 1998 г., г.Мінск.*

# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 46 (164)**

*Предлагаем*

**ХОЛОДИЛЬНОЕ ОБОРУДОВАНИЕ**

*и запчасти:*

*холодильные камеры, агрегаты, з/части к ФАК и ИФ, ТВВ (Тарту) РТХО, ТАМ-113, РВТ-8/12/24, микродвигатели, кран сливной для молочной ванны РПО-2,5, реле давления и др.*

Тел./факс (017) 283-96-59.

## ПРАДАЕЦЦА ДОМ

■ Цагляны, 9х11 м, маюцца г/пабудовы, гараж, участак 20 сотак, танна. Магчымы абмен.

Тэл. у Шаркаўшчыне 2-10-34.

■ Дом недабудаваны (2 паверхі, без унутраных работ), гараж, будматэрыялы ў г. Дзятлава.

Тэл. (8-01563) 211-58.

■ Дом і ўчастак у в. Матыкі Мядзельскага раёна, участак пад будаўніцтва дома ў г. Мядзелі (магчымы варыянты).

Тэл. у Мядзельскім раёне 3-83-22.

Зруб 6х6 м.

Тэл. у Маладзечне 9-74-62.

■ Цагляны, з усімі выгодамі, г/пабудовы, участак 10 сотак у г. Быхаве, або мяняю на кватэру ў Мінску.

Тэл. у Быхаве (8-02231) 2-15-04.

У Смалявічах (8-01776) 5-53-70.

■ Цагляны дом з г/пабудовамі, ёсць гараж, тэлефон. Дом у в. Падліпцы Слуцкага раёна.

Тэл. у Мінску 247-62-19, пасля 18.00.

■ Добраўпарадкаваны драўляны дом у Слуцку, участак 11 сотак.

Тэл. у Салігорску 2-45-70.

■ Дом 6х11, маецца лазня, г/пабудовы, агарод 1,7 га, тэлефон, каровы, свінні, куры, дровы, сена і інш. у Верхнядзвінскім раёне, або абмяняю на кватэру.

Тэл. (8-02151) 2-37-81.

■ Палова новага цаглянага дома ў Слоніме (3 пакоі, кухня, газ, вада), маецца хлеў, гараж, зямельны ўчастак.

Тэл. (8-01562)2-70-47.

## ПРАДАЕЦЦА АЎТАМАБІЛЬ

■ «ГАЗ-21С» («Волга») 1968 г.в. у добрым стане.

Тэл. у Воранаве 2-15-04.

■ «Масквіч- 2140» на з/ч.

Тэл. у Мастоўскім раёне 2-62-22.

■ «VW-Пасат» 1986 г.в. (з Германіі), люк, дугі, фаркоп.

Тэл. (8-02156) 3-87-65.

■ «Ібеxо» 1981 г.в., 2,5 л, дызель, тэнт, кап.рамонт рухавіка 1988 г.

Тэл. (8-02132) 2-77-37.

■ «ЗАЗ-968М» 1987 г.в., 30 к.с. можна на з/ч 100 у.а.

Тэл. (8-01515) 2-41-90.

■ Новае лабавое шкло да «Масквіча 403».

Тэл. 264-39-60.

■ «Аудзі-100» 1983 г.в., 1,9 л, бензін, белы, люк, стэрэа, растаможаны — 2700 у.а., торг.

Тэл. у Маладзечне 5-39-19.

■ «ГАЗ-51» бартавы, у добрым стане, цана па дамоўленасці.

Тэл. (8-01794) 5-46-85, з 8 да 17.

■ «VW-Пола» 1984 г.в., бензін, чырвоны, 1 л, выдатны стан.

Тэл. у Валожыне 5-82-90, з 19.00.

■ «Масквіч ІЖ-комбі» у добрым стане. «Міцубісі-Кольт» у выдатным стане.

Тэл. (8-01715) 5-32-56.

■ «Форд-Арыён» 1985 г.в., 1,6 л, бензін, у добрым стане.

Тэл. у Маладзечне 7-13-39, пасля 17.

■ «Нісан-Сані» 1987 г.в., седан, белы, салон «люкс», растаможаны, у добрым стане — цана па дамоўленасці.

Тэл. у Клецкім раёне 4-14-71.

■ «Аудзі-80» («бочка») 1987 г.в., турбадызель.

Тэл. у Чэрвені 5-21-48.

■ «Форд-Сіера» 1984 г.в., растаможаны.

Тэл. у Вілейцы 5-38-73.

■ «Форд-Эскорт» 1988 г.в., дызель, 1,6 л, белы, люк, растаможаны, 5-дзверны.

Тэл. у Валожыне 5-82-90, пасля 19.00.

■ «ВАЗ-2105» 1984 г.в. у добрым стане, цёмна-сіні, з Германіі — цана па дамоўленасці.

Тэл. у Слоніме 3-26-58.

■ «ВАЗ-21074» 1996 г.в.

Тэл. у Новалукомлі 3-74-46.

■ ЗАЗ-1102 «Таўрыя» 1990 г.в., з/ч.

Тэл. у Дзяржынску 5-44-60.

■ «ВАЗ-2103» 1975 г.в., у аварыйным стане, патрабуецца рамонт кузава, або на з/ч 400 у.а., торг.

Тэл. у Мінску 215-36-96.

■ «Опель-Кадэт» 1987 г.в., дызель, растаможаны — 3500 у.а. (тэрмінова).

Тэл. (8-01562)9-45-48.

■ «БМВ-324Д» 1986 г.в., на з/ч.

Тэл. у г. Масты 2-26-75.

## КУПЛЮ

● Жыллё ў Гродне ці Лідзе (да 6 тыс. у.а.), у дадатак — «ВАЗ» (Мінскі раён).

Тэл. (8-017) 502-78-90.

● Старыя фотаапараты, мікраскоп, авіягадзіннік, фуражкі (да 1956 г.), секундамер.

Тэл. 253-24-41.

● Трактар «Т-25».

Тэл. у Навагрудскім раёне 7-37-73.

● Раму да аўтамашыны «ГАЗ-69».

Тэл. (8-01717) 4-72-93.

● «МТЗ-80» (82) або «Т-25» б/к.

Тэл. (8-017)251-06-48.

● Трактар «Т-16», «Т-25» (да 1000 у.а.).

Тэл. у Жыткавічах 7-15-55.

## ПРАДАЕЦЦА РОЗНАЕ

❑ Трактар «Т-25» з наборам прычапных прыстасаванняў. Цана па дамоўленасці.

Тэл. у г. Глыбокае 2-48-11.

❑ Пагрузчык ПГ-0,3 да трактара «Т-16».

Тэл. у Ст. Дарогах 5-53-29, пасля 18.00.

❑ Дзіцячая каляска і крэсла.

Тэл. у Мядзельскім раёне 3-83-22.

❑ Масла чайнага дрэва.

Тэл. 253-92-26.

Чыгунныя радыятары б/к у выдатным стане.

Тэл. у Маладзечне 5-39-19.

❑ Зруб 9х11, участак 13 сотак у «Царскім сяле», г. Стоўбцы.

Тэл. (8-01717)3-46-00.

❑ Вясельны ўбор напракат — 40 у.а.

Звяртацца: Ашмянскі раён, в. Талмінава, Свірская.

❑ Тэхнічны пашпарт «МТЗ-82».

Тэл. у Валожыне 5-82-90, з 19.00.

❑ Фотапавелічальнік «Беларусь» новы; лічыльнік 3-фазны, 20А (праверany).

Тэл. у Мінску 248-39-35.

❑ Трактар «МТЗ-80» (82) новы.

Тэл. (8-017)241-19-42.

❑ Кватэра 3-пакаёвая, прыватызаваная ў г. Міёры.

Тэл. (8-02152) 2-15-92.

❑ Кватэра 2-пакаёвая ў пас. Акцябрскі Гомельскай вобласці, або абмяняю.

Тэл. у г. Маладзечне 6-06-44.

❑ Бензапіла шведская.

Тэл. у Мінску (8-22) 57-06-88.

❑ Палатка турыстычная 2-месная, новая — 30 у.а.

Тэл. (8-01652) 5-91-64.

❑ Антэны TV з 100-кратным сілкаваннем.

Тэл. у Мінску 224-69-42, пасля 18.00.

❑ Трактар «Т-25» з прычэпам — цана па дамоўленасці.

Тэл. (8-01716) 4-61-44.

❑ Кузаў, бак да «БМВ-525» 1980 г.в.; з/ч да «Пежо» 1989 г.в.

Тэл. у Нясвіжы 5-37-81.

**P.S. Паважаныя спадары! Па прычыне неразборлівага напісання і неахайнага запаўнення купонаў некаторыя з іх у друк не трапляюць.**

ПРОДАЕМ

**КРУПОРУШКИ**

для производства крупы

**перловой, ячневой и гороха.**

*Производительность до 250 кг/час.*
*Срок окупаемости — 25 рабочих смен.*

Предпродажное тестирование на действующем производстве

(017) 502-64-40, 502-64-44, 502-62-69, факс 502-64-64.

**ВОЗМОЖЕН БАРТЕР НА ЯЧМЕНЬ**

## Асабістае жыццё

**Аб. 919.** Мужчына 32 гадоў, рост 162 см, без ш/звычак, добры, працавіты, аптыміст для стварэння сям'і пазнаёміцца з жанчынай (дзеці не перашкода) — Віцебская вобл.

**Аб. 920.** Калі вы ўдава і жывяце адна і хочаце мець добрага гаспадара для далейшага жыцця, напішыце мне ліст, пажадана з Бабруйска ці гэтага ж раёна. Аб сабе: мне 63 гады, рост 172 см, непітушчы і некурэц. Хто напіша — не прагадае.

**Аб. 921.** Пазнаёмлюся з мужчынам без ш/звычак і матэрыяльных праблем. Аб сабе: прыгожая, 22 гады, рост 170, адукацыя вышэйшая, без ш/звычак, ёсць дачушка (Гродзенская вобл.).

**Аб. 922.** Два маладыя 20-гадовыя хлопцы (Юрась і Валянцін) з Капыльскага раёна пазнаёмяцца з маладымі дзяўчатамі. Пішыце.

**Аб. 923.** Жыццё «не склеілася», але так хочацца каб пабач быў надзейны, разумны сябар, муж, бацька. Аб сабе: 27/162, была замужам, сыну 4 гады, спакойная, добрая, знешнасць звычайная, адукацыя вышэйшая, матэрыяльна забяспечаная (Віцебская вобл.).

**Аб. 924.** Дзяўчына, 23 гады, пазнаёміцца з добрым, без ш/звычак хлопцам. Я вельмі стамілася цябе чакаць, прыходзь, я чакаю. Лена.

**Аб. 925.** Пазнаёмлюся з сімпатычнай жанчынай да 32 гадоў з Мінска ці Мінскай вобласці без ш/звычак для стварэння сям'і. Пажадана фота, якое вярну. Аб сабе: 29 гадоў, 180 см, разведзены, без ш/звычак, згодзен на пераезд (Мінская вобласць).

**Аб. 926.** Адзінокі, сціплы мужчына шукае адзінокую жанчыну да 45 гадоў і ростам да 157 см. Пісаць: 222120, г. Барысаў-11, а/с 340.

**Аб. 927.** Пазнаёмлюся з маладым чалавекам без ш/звычак. Аб сабе: Таццяна, 24 гады, рост 175 см, брунетка. 3 месцаў пазбаўлення волі прашу не пісаць (г. Орша).

**P.S. Не забывайцеся ўлажыць канверт са сваім адрасам, калі просіце выслаць адрас абанента.**

## *ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!*

**Просім аб'явы ў газету «Звязда» дасылаць на беларускай мове. Гэта забяспечыць дакладнасць і хуткасць іх публікацыі.**

ПРЕДПРИЯТИЕ ЗАКУПАЕТ

**СЕМЕНА РАПСА**

**пищевого 1-го класса**

**ПРЕДОПЛАТА.**

**Тел./факс (017) 226-37-89**
**тел. (017) 226-37-88.**

Просим откликнуться свидетелей автодорожной аварии, происшедшей 16 июня 1998 г. на трассе Минск—Гродно вблизи г. Ивье, а также водителей, видевших аварию, и водителя иномарки, отвозившей двух пострадавших женщин в больницу г. Ивье.

Позвоните по тел.: (8-01563) 30-7-41, 30-3-26.

Тел. в Минске 257-21-25.

*Паважаны* ***Іосіф Іосіфавіч КІСЯЛЁЎ,*** *ад усёй душы віншуем вас з прысваеннем вам звання акадэміка ў народнай медыцыне і з узнагародай ордэнамі Пятра Вялікага і Святога Георгія. Доўгіх вам гадоў, моцнага здароўя і поспехаў у лячэнні людзей.*

**Сям'я Мазько,** Іванаўскі раён.

## *ВІНШАВАННІ*

*Віншуем з днём нараджэння дарагую і любімую жонку і матулю* ***Лідзію Мікалаеўну НОВІК*** *з г.п. Любча. Жадаем здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця.*

**Муж, дзеці.**

*Ад усяго сэрца віншуем дарагую матулю* ***Алімпіяду Фёдараўну КРАКУН*** *з 65-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці, бадзёрасці на доўгія гады.*

**Дзеці, унукі,** в. Моталь.

*Мілая, дарагая сястрычка* ***Валянціна Аляксееўна КРАЎЧАНКА*** *з Гомеля, віншуем з 55-годдзем. Хай будзе ў хаце тваёй свята, нягоды пройдуць стараной. Здароўя, шчасця, дабрабыту жадаем мы ўсёй сям'ёй.*

**Сястра, браты,** г. Хойнікі.

*Шчыра віншую з днём нараджэння ўнучку* ***Кацярыну МАРЧЭВІЧ*** *з г. Гродна. Жадаю моцнага здароўя, поспехаў у вучобе, радасці ў жыцці.*

**Бабуля Алена** з в. Літва Слонімскага раёна.

*Дарагога і любімага тату і дзядулю* ***Міхаіла Іванавіча КРУКА*** *з в. Міхалёва Бярэзінскага раёна віншуем з днём нараджэння. Жадаем на доўгія гады захаваць здароўе, бадзёрасць, жадаем радасці, шчасця і дабрабыту.*

**Дзеці, унукі.**

*Шчыра віншуем з днём нараджэння дарагую матулю* ***Кацярыну Сцяпанаўну КЕБЕЦ.*** *Жадаем добрага здароўя, мужнасці, сілы духу. Такую матулю трэба пашукаць! Жыві доўга і радуй нас сваім жыццём. Таксама віншуем маміну сястру (яны блізняты), а нашу любімую цётачку з днём нараджэння. Шчасця вам. А самі яны жывуць у в. Бярозаўка Петрыкаўскага раёна.*

**Сям'я Бандарэнкаў з Магілёва.**

**Куплю мотаблок МТЗ.**

**Тэл. (8-017) 271-62-19.**

**ПРАДАЮ** 2-павярховы зруб два паверхі, 8х10 м, арыгінальнай канструкцыі, са сталяркай, або мяняю на трактар ці аўтамабіль «дызель».

**Тэл. у Стаўбцоўскім раёне 4-74-92.**

**ПОКУПАЕМ**

*ЯЧМЕНЬ, ГОРОХ продовольственный.*

**Тел.: (017) 502-62-69, 502-64-40, 502-64-44, факс 502-64-64**

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ** звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца. Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

## ВОСЕНЬСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

# ЛІСТАПАД

**24/11. Хведар Студзянец.** Хрысцянскі Феадор Студзіт у сувязі з адпаведным надвор'ем і сугучным прозвішчам у народзе празваны Студзянцом. «Хвёдаравы вятры галоднымі ваўкамі скуголяць».

**25/12. Кацярыны** — каталіцкі прысвятак, які арыентуе ў надыходзе снягоў і кароткіх зімовых дзён. «Прыйшла Кацярына — прыйдзе і пярына», «Кацярына забрала лета». У некаторых мясцінах лічылася: калі ў гэты дзень будзе дождж або снег, то аж да Грамніц зацягнуцца адлігі.

**Іван Міласцівы.** На Палессі ў гэты дзень стараліся з кімнебудзь хоць чымсьці падзяліцца, нешта пазычыць, падараваць «ва ўгоду святому». Калі на Івана Міласцівага ішоў дождж або снег, то меркавалі, што аж да Грамніц трэба чакаць адлігі.

**27/14. Юстыніян.** Прызнаны апекуном плоднасці і дзяцінства. Відаць таму, што царкоўны прававерны Юстыніян (565 г.) паказаны на абразе з дзіцем на руках. «Бяздзетныя сяляне ці такія, у каго часта паміраюць дзеці, абавязкова маюць абраз св. Юстыніяна ў сваёй хаце», — сведчыць фалькларыст.

**Піліпаўскія (Піліпавы, Калядныя) запусты (заговіны)** — дзень перад Піліпаўкай. Клікалі ў госці бабу, «што пупы вяжа». Жанчыны заканчвалі апрацоўку льну і канапель, рыхталіся да піліпаўскіх вячорак. У Вілейскім павеце гаварылі: «Пуста места запусты, пусці, Божа, куцейку». З запустамі звязана нямала народных прымет: «Калі непагадзь суправаджае Калядныя запусты, то можна разлічваць на ўраджайнае лета»; «Калі да Піліпавых заговін мянтуз кладзе ікру — зіма скончыцца раней; калі нерастуе пазней, перад днём восеньскага Юр'я, зіма будзе даўжэйшая. Перад Піліпавым постам сяляне звычайна рэжуць гусей і колюць кабаноў. Гэта дае нагоду варажыць пра зіму. Калі грудная костка ў гусі больш чырвоная, чым белая, то зіма чакаецца цярпімая; у адваротным выпадку — больш цяжкая. Калі ў вантробах у разабранага кабана так званая «каса» (селязёнка) будзе ў верхнім канцы танчэйшая, а ў ніжнім таўсцейшая, то пачатак зімы будзе нядрэнны, а канец — цяжкі; у іншым выпадку — наадварот».

**Піліп (Піліпей).** Пярэдадзень Піліпаўкі. Апошні дзень падрыхтоўкі ткацкага начыння. Пачынаюцца халады, усе апранаюцца цяплей, таму на Тураўшчыне вядома прымаўка: «Ек залезе Піліп, то і Петро не вужэне». У Лельчыцкім раёне, як і ў некаторых іншых, кажуць: «Піліп дзяцей адзявае». Перад Піліпаўкай заканчваліся вяселлі, таму спявалі:

***Была восень, цяпер зіма,***
***Былі хлопцы, цяпер няма.***

*(Бярозаўскі раён)*

**28/15. Піліпаўка (Калядны, Піліпаўскі пост).** Шасцітыднёвы перадкалядны пост (да 7 студзеня). Гаварылі: «У Піліпаўку дзень да палудня». Не елі скаромнага. Не рабілі вяселляў. Дзяўчаты хадзілі на вячоркі, пачыналі ткаць «другія» кросны. «Што ў Піліпаўку спрадзеш, то ў Вялікі пост сатчэш». У адной з піліпаўскіх песень распавядаецца:

***Пойдзем, дзевачкі, у начлежачкі.***
***Возьмем, дзевачкі, паўтары мычачкі,***
***Напрадзём, дзевачкі, паўтары цэвачкі,***
***Аснуём, дзевачкі, паўтары губачкі.***
***Пойдзем, дзевачкі, на сяло бёрда шукаць.***
***Усё сяло абышлі, бёрда не знайшлі.***
***Будзем, дзевачкі, у прасла кросны снаваць,***
***Будзем, дзевачкі, у тын кросны ткаць.***

*(Мсціслаўскі раён)*

Лічылася, што ў Піліпаўку збіралася «воўчае вяселле», хадзілі ваўкі зграямі. «Як Піліпаўка настала, то ваўкі ідуць гайнюю». Заўважылі: калі на Піліпаўку надвор'е хмарнае або снежнае, то травень будзе мокры. У Столінскім раёне сцвярджаюць: «Як у Піліпаўку навісь на дрэве, то будзе ўраджай на хлеб».

Гэтая зімовая пара пераклікаецца адпаведна з веснавой: «Спорны піліпаўскі клубок, а пятроўскі стажок», «Калі добра пагода будзе на Піліпаўку, то добра будзе і на Пятроўку» (Лельчыцкі раён).

Піліпаўскі пост упамінаецца ў асенняй песні:

***Пасціла ўдоўка сем панядзелкаў,***
***Васьмую нядзелечку.***
***Прынясі, Божа, нежанатага***
***на маю пасцелечку...***

*(Вілейскі раён)*

**29/16. Мацей.** Прысвятак указвае на няўстойліваю пару, якая прыносіць слату: «На Мацея дарога (зіма) пацее».

**30/17. Андрэй.** Па каталіцкім календары дзяўчаты вечарам напярэдадні варажылі, сыпалі пад падушку ячмень са словамі: «Святы Андрэю, я ячмень сею, дай жа ты мне знаць, з кім буду жаць».

**Алесь ЛОЗКА.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.53 | 16.00 | 8.07 |
| Віцебск – | 7.49 | 15.44 | 7.55 |
| Магілёў – | 7.42 | 15.50 | 8.08 |
| Гомель – | 7.34 | 15.53 | 8.19 |
| Гродна – | 8.09 | 16.16 | 8.07 |
| Брэст – | 8.00 | 16.24 | 8.24 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра — 27 лістапада.**

***З 11.20 — 7-ыя месяцавыя суткі.***

***З 10.44 Месяц — у сузор'і Казярога.***

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Вікенція, Віктара, Максіма, Міны, Сцяпана, Сцепаніды**

**К. Флоры**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца малавоблачнае, без ападкаў надвор'е, вецер слабы. Тэмпература ў Магілёве — 10—12, Гомелі — 9—11, Мінску, Віцебску — 8—10, Гродне і Брэсце — 6—8 градусаў ніжэй нуля.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер слабы. Тэмпература ўначы — 11—16, па ўсходу да 21, удзень — 4—9 градусаў марозу.

**Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе з выпадку смерці начальніка ўпраўлення ПЫЛЬЧАНКІ Уладзіміра Васільевіча і выказвае спачуванне яго родным і блізкім.**



*Любім катацца...* Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## ПЛАНЕТА ЖЫВЁЛ

# ЧАТЫРОХНОГІЯ АЛКАШЫ

*«Вёска Галаскі выславілася тым, што ў ёй чалавек малога росту і сярэдніх год, Пархвен Катлубовіч, біўся з п'яным пеўнем. Гэта было даўно. Малыя хлопцы дасталі гарэлкі і сілком напаілі пеўня, злавіўшы яго на Пархвенавым двары. Певень стаў як шалёны і кінуўся на свайго гаспадара, калі той выйшаў на двор. Пархвен спачатку адмахнуўся ад пеўня, але той падлятаў і дзёўб чалавека ў твар. Пархвен кінуўся на ўзвар'яцелую птушку, і так яны ўдвух качаліся па зямлі, аж пакуль Пархвену не ўдалося, нарэшце, адкінуць пеўня на той бок свінушніка...»*

Так, гэта сапраўды было даўно — гадоў пятнаццаць таму. Прачытаўшы па школьнай праграме апавяданне Кузьмы Чорнага «Вялікае сэрца», мы, трое сямікласнікаў, вырашылі «праславіць» і сваю вёску. Злавіць нашага пеўня і сілком напаіць яго, як гэта зрабілі героі апавядання, не ўдалося — бацька мой трымаў на падворку пеўня нейкай замежнай пароды — невялічкага, але цыбатага і з доўгімі вострымі «шпорамі». Ён ганарыўся гэтай птушкай, бо ўсе суседскія пеўні вельмі ўжо хутка прызналі яго верхавенства і, убачыўшы Пятрушу здалёк, беглі хавацца — хто ў высокую крапіву, хто — на ўласны падворак. Мы зрабілі працей: намачылі жменю зерня ў шклянцы гарэлкі і, калі яно добра набрыняла, высыпалі на сцежцы, па якой певень вёў сваю курыную грамаду.

А далей — трэба было бачыць! Мая баба Надзя, якая вярталася з агарода, была атакавана па ўсіх правілах вайсковай тактыкі — вераломна, ззаду. Выпусціўшы кошыкі з бульбай і закрыўшы фартухом галаву, бабуля подбегам кінулася ў адрыну. А на наступны дзень я з вялікім задавальненнем абсмоктваў крыльца «агрэсара». «І здаўся табе гэты заморскі д'ябал», — ушчувала баба Надзя бацьку, плямкаючы бяззубым ротам.

Не ведаю, як там наконт славы, але пеўні на нашым двары з таго часу водзяцца толькі свае, мясцовыя. Не выключана пры гэтым, вядома, і тое, што і яны з поспехам паўтарылі б «подзвіг» свайго сабрата, калі б надарылася магчымасць паспытаць хмельнага зерня.

А ўвогуле, калі гаварыць пра п'янства сярод жывёл, то прыходзіцца з сумам канстатаваць, што далёка не ўсё і далёка не ўсюды гэта завяршаецца камічна. Бываюць і іншыя гісторыі.

Аднойчы жыхары вёскі Дзігхакон у Бангладэш на сваю бяду пабудавалі вінакурню. Пах вытворчасці прыцягнуў увагу статка сланоў у паўтара дзесятка галоў. Аднойчы ноччу яны ўварваліся на тэрыторыю заводзіка і напіліся віна прама з брадзільных чанаў, пасля чаго жывёлы, адурманеныя спіртным, рынуліся ў вёску і, ахопленыя п'яным шаленствам, літаральна сцёрлі з твару зямлі хліпкія пабудовы.

Індыйскія сланы наогул праяўляюць дзіўную кемлівасць, калі дабяруцца да спіртнога. Яны неаднаразова грамілі прадуктовыя склады на вайсковых базах у джунглях Заходняй Бенгаліі, дзе захоўваліся запасы рому, які выдавалі салдатам. Хоць склады былі абнесены плотам з прапушчаным праз дрот токам высокага напружання, усё роўна ноччу статак таўстаскурых гігантаў падкрадваўся да склада і, як па камандзе, рваў электрычныя правады і разганяў узброеную ахову. Уварваўшыся на склад, сланы разбівалі бутэлькі з ромам і пілі выцякаўшую з іх вогненную вадкасць. Ап'янеўшы, яны пачыналі, па расказах сведак, «танцаваць», прыціснуўшыся адзін да аднаго бакамі, хістаючыся і гучна трубячы. Ваенныя ўлады пасля беспаспяховых спроб адагнаць жывёл вырашылі размясціць склады ў гарадах, адкуль і вазілі сагравальнае салдатам на грузавіках.

У джунглях Шры-Ланкі сланы паводзяць сябе больш спакойна, затое там лютуюць п'яныя малпы. Спіртное ў гэтай краіне робяць у асноўным з соку пальмаў, які збіраюць у слоікі, прымацаваныя да іх ствалоў. Сок, што пачынае брадзіць, і выкрадаюць у вялікіх колькасцях мартышкі. Ап'янеўшы, яны кідаюць у людзей камяні, плады дрэў, а маладыя самцы, каб прыцягнуць увагу праходзячых міма жанчын, мочацца на іх прама з дрэва. Начамі п'яныя малпы наладжваюць дзікія оргіі каля дамоў сельскіх жыхароў, крычаць, валтузяць адна адну з-за самак і нападаюць на хатніх жывёл.

Але самае страшнае, калі п'янеюць афрыканскія гарылы. Наядаючыся восенню нейкіх пладоў, яны губляюць галаву і могуць учыняць даволі непрыемныя рэчы. У дарослай малпы хопіць сіл, каб перакуліць грузавік і нанесці калецтвы людзям. У час ап'янення самцы гарылы часам зацягваюць у джунглі жанчын, якія, асабліва ў краінах дзікай Цэнтральнай Афрыкі, асцерагаюцца лішні раз выйсці з дому, а на працяглую прагулку не рызыкуюць выпраўляцца без суправаджэння мужчын.

Але найбольш схільнымі да алкагалізму жывёламі лічацца пацукі. Летась, напрыклад, у адным з паліцэйскіх участкаў Дэлі яны выпілі некалькі дзесяткаў бутэлек джыну, які ахоўнікі парадку канфіскавалі ў кантрабандыстаў. Пацукі зацягвалі бутэлькі на верхнюю са скрынак, пасля разбівалі іх, скідваючы на бетонную падлогу, і з задавальненнем вылізвалі вадкасць, якая расцякалася.

Пацукі-алкаголікі аблюбавалі некалькі супермаркетаў у Варшаве. Кожную ноч яны наведваліся ў магазіны, знішчаючы дзесяткі бутэлек гарэлкі. Асмялелыя ад алкаголю даўгахвостыя жывёліны нападалі на людзей, а магазінных катоў загрызалі да смерці. Вартаўнікі сталі ставіць у падвалах магазінаў тазы з гарэлкай, падмешваючы ў яе снатворнае. Раніцай ахова збірала дзесяткі грызуноў, якія, перапіўшыся, моцна спалі.

Але не толькі ў паўднёвых краінах звяр'ё любіць адурманьваць сябе алкаголем. Восенню сур'ёзную небяспеку для жыхароў шведскіх вёсак уяўляюць ласі. Паўночныя веліканы наядаюцца ў лесе падгнілых яблыкаў, якія пачынаюць брадзіць у іхніх страўніках. Алкаголь б'е ім у галаву. Адурэлыя сахатыя ідуць у бліжэйшую вёску. Сярод белага дня яны могуць пагнацца за людзьмі, топчуць сабак і нават ірвуцца ў хлявы да кароў.

Нарколагі лічаць, што прадстаўнікі жывёльнага свету схільныя адурманьваць сябе спіртным наўмысна, каб зняць стрэс. На жаль, яны, як і многія людзі, не ведаюць меры, што часам прыводзіць да сумных вынікаў.

**Андрэй МАЗУРКЕВІЧ.**

Фота Ігара МАКАЛОВІЧА.

# ШАХМАТЫ

**Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА**

**ГАДАВЫ КОНКУРС РАШЭННЯЎ**

**Заданне № 39**

**Д. Банны** (Масква)



**Белыя:** Крb1, Фh3, Сс6, Сg1, Кg6; п. d5 (6). **Чорныя:** Кре4, Фа8, Са7, Кd8; пп: b6, d6 (6). **Мат за 2 хады.**

**Заданне № 40**

**В. Рудэнка** (Днепрапятроўск)



**Белыя:** Крс3, Фd1, Лf2, Сс1, Кf3, Кh6, п. е2 (7). **Чорныя:** Кре4, Ла5, Сс4, Сd8, Кb3; пп: b6, с6, е7, f7 (9). **Мат за 3 хады.**

**МІНІ-ПАРТЫІ**

Прыводзім дзве партыі-мініяцюры, згуляныя ў далёкім 1974 годзе.

**Таль—Пэц**

*Сіцыліянская абарона*

1. e4 c5 2. Kf3 Kc6 3. d4 cd 4. K:d4 g6 5. c4 Cg7 6. Ce3 Kf6 7. Kc3 Kg4 8. Ф:g4 K:g4 9. Фd1 e5 10. Kb5 0—0 11. Фd2 Фe7 12. Ce2 b6 13. K:d4 ed 14. C:d4 Ф:e4 15. C:g7 Ф:g2 16. Фd4 Ф:h1+ 17. Kpd2 Ф:h2 18. C:f8 Kp:f8 19. Cf3 d5 20. C:d5 Лb8 21. Лe1 Ce6 22. Л:e6 і чорныя здаліся.

**Мюлер—Радрыгес**

*Дэбют ферзявай пешкі*

1. d4 Kf6 2. Kc3 c5 3. dc Фa5 4. Kf3 e6 5. Cd2 C:c5 6. e3 Фd8 7. Cd3 d5 8. 0—0 Kc6 9. e4! de 10. K:e4 Ce7 11. Фe2 0—0 12. Лad1 Фb6 13. Лfe1 Ф:b2 14. Cc3 Фa3 15. K:f6+ gf (Дрэнна было б чорнаму каралю і пасля 15... C:f6 16. C:f6 gf 17. Фe4 f5 18. Фh4). 16. Kg5!! h6 17. Фh5 Kpg7 18. Лe3 Фc5 19. C:f6+ і чорныя здаліся.

**ЗАПРАШАЕМ УДЗЕЛЬНІЧАЦЬ**

Асацыяцыя праблемістаў Чэшскай Рэспублікі аб'явіла конкурс складання эцюдаў. Ён прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння Францішка Мацэка, які мае ў сваёй калекцыі больш як 50 тысяч эцюдаў.

Эцюды дасылайце да 28 сакавіка 1999 года на дыяграмах у адным экземпляры на адрас: Jiri Jelinek, Spanielova 1313, CZ-16300 Praha 6, Czechia.

Устаноўлены прызы: 1700, 1200 і 700 чэшскіх крон.

Вынікі конкурсу будуць апублікаваны ў часопісе «Sachova skladba» ў 1999 годзе, а яго атрымаюць усе ўдзельнікі конкурсу.

## ЧАМУ НЕ СПІЦЦА П'ЯНАМУ

Усім вядома, што пасля вечара з вялікай колькасцю спіртнога вельмі часта мучыць бяссонніца. Цяпер гэтаму знойдзена навуковае растлумачэнне.

Алкаголь тармозіць выпрацоўку гармону сну — мелатаніну. Напрыклад, пасля 4 шклянак віна ўтрыманне мелатаніну ў крыві змяншаецца больш чым на 30 працэнтаў. Апошняе даследаванне доктара Юхана Вікнера, урача медыцынскай клінікі Сёдэршукхусет, паказвае, што зніжэнне выпрацоўкі мелатаніну пачынаецца пасля таго, як утрыманне алкаголю ў крыві перавышае 0,5 праміле. Пасля перавышэння гэтай дозы ўзровень мелатаніну ў крыві імкліва зніжаецца. Алкаголікі з парушэннямі нервовай сістэмы маюць вельмі маленькі ўзровень мелатаніну ў крыві ў параўнанні з непітушчымі. Сон іх становіцца павярхоўным і не дае адпачынку.

**Інеса МОІН, БЕЛТА.**

# На прызбе ў Алены

**ГАСЦЁЎНЯ**

**Што і казаць, шаноўныя, мала прыемнага ў гэтым жыцці. І зіма ранняя прыціснула, і крызіс... Ах, гэты крызіс! Кожны, нават самы абыякавы да грошай чалавек, калі не сербануў яго поўнай лыжкай, дык хаця б на смак пакаштаваў. Цяжка, і не кажыце. Але ведаеце, што гаварыла ў такіх выпадках мая бабка, якая пражыла больш за дзевяноста: «Жывы ж у магілу не палезеш. Жыць жа неяк трэба». Адсюль мая ўласная выснова: калі жыць усё ж прыходзіцца, лепш рабіць гэта з гумарам. Вельмі рада, што не толькі я прыйшла да такой думкі: вашы пісьмы «на прызбу» — таму сведчанне.**

**Сягоння, як вы здагадаліся, гаворка «на прызбе» — пра крызіс і толькі пра яго. Хто яго ведае, гэту загадкавую істоту: можа, ён не верыць слязам, але спалохаецца смеху? Чаму б не паспрабаваць? «Крызісная» гісторыя, прыпеўкі, а ў дадатак — карысныя парады, як зэканоміць на прадуктах. Ну што, спакусіла я вас завітаць «на прызбу»? Ах, забылася яшчэ адзін, самы важкі сягоння аргумент. Які, дзякуючы Якубу КРУГЛІКУ з Валожына, магу выказаць у вершах**

***Што за цэны! Што за цэны!***
***Як убачу — проста злосць,***
***А «на прызбе ў Алены»***
***За бясцэнак усё ёсць!***

**Не тое што за бясцэнак — зусім бясплатна. Заходзьце, калі будзе час!**

**І будзе зусім цудоўна, калі не з пустымі рукамі зойдзеце. Не, не пужайцеся: ні яек, ні цукру, ні іншых «дэфіцытаў» не трэба. Я чакаю вашых твораў, канешне ж.**

**Спяшаюся абвясціць новую тэму нашай гаворкі. Тут мудрагеліць не буду: хутка Каляды і Новы год. Грэх гэтым цудоўным святам (а яны, думаю, застануцца святамі ў любы крызіс) не прысвяціць адну з нашых бліжэйшых сустрэч.**

**Чакаю вашых дапісаў!**

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**



## «Крызісная» гісторыя

**Веніямін ШЫЧКО,**
*в. Слабада, Крупскі раён:*

### Піхнуў машыну...

Раскажу, што адбылося са мной у перадсвяточныя дні. Дні за два да 7 лістапада параіліся мы з жонкай і вырашылі хоць на свята чым смачным паласавацца. «Едзь, — кажа, — стары, у горад, каўбаскі якой купі, селядца. Халера з імі, з грашыма. Зробім сабе свята».

Сказана — зроблена. Сабраўся я на аўтобус, грошы ўзяў, сумку большую. Пасля на электрычку, прыехаў у горад. Пайшоў прыглядацца, дзе што таннейшае ёсць. Што сам знайшоў, што ў людзей спытаўся — купіў і каўбасы, і свежаніны, і рыбы, і макароны. Ды яшчэ дзве бутэлькі гарэлкі і бутэльку віна...

Пакуль хадзіў, купляў, цэлы дзень і праляцеў. Нават паабедаць нідзе не паспеў. Але ехаў у электрычцы, цешыўся: во ўжо пасядзім са старой!

Электрычка падыходзіць якраз пад апошні аўтобус, што ідзе праз вёску. Але тут мне не пашанцавала. Пэўна, сумка цяжкая была, таму ішоў я павольней, чым звычайна. Карацей, на аўтобус я спазніўся.

Начаваць няма дзе, стаў я «галасаваць». Спыніўся «жыгулёнак». Вадзіцель кажа: «Сядай, дзед, за паўгадзіны даімчу». Сумку паставіў у багажнік, яшчэ і пацікавіўся, чаго я ў горадзе накупляў. Праехалі мы паўдарогі, раптам машына пыхнула і спынілася. Вылез вадзіцель, падняў капот, круціў там нешта, дзьмухаў, а яна не заводзіцца. «Вылазь,— кажа, — дзед, давай яе піхнём». Сам трымае руль, збоку піхае, а я ззаду прыстроіўся. Пакацілася машына, я ўжо ледзь паспяваю. А ён раптам ускочыў у машыну, газануў — толькі я яго і бачыў.

Пастаяў я, пачакаў, мо вернецца. Дзе там, паехалі мае харчы і бутэлькі. Цемра на вуліцы, мокры снег, да дому яшчэ кіламетраў пятнаццаць. А што жонка скажа? Хоць ты плач.

Да раніцы неяк прывалокся. Мокры, як цюцька, галодны. Жонка крык усчала, што напіўся. А я не тое што не піў — не еў суткі. Расказаў, як было, думаў, паспачувае. Дзе там! Як закрычала: «Дурань стары! Чорту лысаму свята зрабіў. П'е недзе тваю гарэлку і з цябе ж смяецца. Дык во табе будзе — і выпіўка, і закуска!» І кукіш мне тыц пад нос. А сама на вуліцу, усё яшчэ лямантуючы, выскачыла. Суседзі пазбягаліся, яна ім усё расказала...

Цяпер мне — хоць з хаты не выходзь. А як выйду ды іду міма якой машыны, абавязкова хто-небудзь гукне: «Гэй, дзед, піхні машыну, не заводзіцца!» І ўсе аж кладуцца ад смеху.

Ведае вёска, няхай ведаюць і іншыя. Хто паспачувае, хто пасмяецца. А можа, яшчэ каму прапануюць машыну піхнуць.

## «Крызісныя» прыпеўкі

**Мікола КАМАРОЎ,**
*Мінск:*

*Трэба ж крызісу адбыцца*
*У Расіі, тым краі,*
*Дзе багацця — ўся табліца*
*Мендзялеева Д.І.*

**Станіслаў ШУШЭБІЧ,**
*в. Мушана, Полацкі раён:*

*Нашы грошы ўсім харошы,*
*Толькі ёсць адзін грашок:*
*Цэлы мех патрэбна грошай,*
*Каб купіць на іх мяшок.*

**Мікола КУТАС,**
*в. Ілья, Вілейскі раён:*

*Не ідзе жыццё ўгару.*
*Стаў я рэдка есці.*
*Як ад голаду памру —*
*Будзе лёгка несці.*

**Іван БЯЛЯЎСКІ,**
*в. Вішнёўка, Смаргонскі раён:*

*Бабка Насця закупіла*
*Пра запас мяшок мукі.*
*Потым доўга галасіла —*
*Расцягалі пацукі.*

**Марыя ЦІМІНСКАЯ,**
*в. Дзераўцы, Асіповіцкі раён:*

*На гары стаіць бяроза*
*З белаю бяростаю.*
*Ой! Не дакупіцца мыла—*
*Зарасцем каростаю.*

**Генадзь МАНКЕВІЧ,**
*Мазыр:*

*Хоць не маю дыябету,*
*У мяне свая дыета:*
*Не магу я есці сала —*
*Бо на сала грошай мала.*

**Мікалай МАСКЕВІЧ,**
*Мядзель:*

*Ёлкі-палкі, ёлкі-палкі!*
*Памянялі «мінімалку»*
*Пакуль грошы нам далі —*
*Цэны планку паднялі.*

**Пётр ВАЛІНСКІ,**
*в. Стайкі, Івацэвіцкі раён:*

*У калгасным агародзе*
*Вырасла капуста.*
*Ды і морква добра родзіць,*
*А у касе — пуста.*

**Уладзімір СОЙКА,**
*ст. Навасады, Барысаўскі раён:*

*Як зайду да дзеда ў хату —*
*Хоць пішы ў райвыканком —*
*Цукар знік, і дзед гарбату*
*П'е з цукровым буракам.*

## «Крызісныя» рэцэпты

**Глафіра МАЛЕВІЧ,**
*в. Слабада, Мядзельскі раён:*

### Галушкі з учарашняй бульбы

Калі засталася ўчарашняя бульба ці каша — не спяшайцеся яе выкідваць. Паспрабуйце зрабіць галушкі. Падзярыце бульбу на буйную тарку, усыпце жменю мукі, патаўчыце. Дабаўце яйка, соль. Атрыманае «цеста» раскачайце рукамі па стале. Зрабіце галушкі любой формы і падсмажце на тлушчы ці алеі. На стол падаваць гарачымі, можна паліць смятанай.

**Іван ВОЛКАЎ,**
*в. Псуя, Глыбоцкі раён:*

### Гарбата з морквы

Ачышчаную і прамытую моркву прапусціць праз бурачную тарку, падсушыць у печы ці на пліце, злёгку падсмажыць. Засыпаць у чайнік з разлікам: 1 чайная лыжка на шклянку гарбаты. Заліць кіпенем, настаяць 2-3 хвіліны. Цукар дадаць па смаку, яго, дарэчы, трэба напалову меней, чым у звычайную гарбату. А якая духмяная, прыемная і пажыўная гэта гарбата! Піце на здароўе!

*36,6°*

# ЗОНА ЗЛОСЦІ

**Чаму ў эдных дамах вы адчуваеце сябе ўтульна і добра, іншыя ж ціснуць і прыгнятаюць, і вы стараецеся як мага хутчэй іх пакінуць, а потым яшчэ доўга адчуваеце дзіўную стомленасць і недамаганне?**

У любым доме пануе свая непаўторная энергетыка, прычым пазітыўныя і негатыўныя зоны ў жыллі стварае сам чалавек. Так, любімае крэсла, у якім вы прывыклі адпачываць і расслабляцца, становіцца для вас «астраўком» дабрабыту. А вось куток на кухні, дзе ідзе пастаянная лаянка з мужам, ракавіна, заўсёды поўная нямытага посуду, таз у ваннай, куды тыднямі складваецца брудная бялізна, або куток у прыхожай з гарой нячышчанага абутку ствараюць вакол сябе зоны злосці. Як вы адносіцеся да дому, так і ён стане адносіцца да вас.

Вызначыць «добрыя» і «дрэнныя» зоны не так ужо і цяжка. Там, дзе энергетыка пазітыўная, марудней высыхае разлітая вада, доўга не вянуць зрэзаныя кветкі, заўсёды роўна і высока свеціць полымя свечкі.

У месцах скаплення негатыўнай энергетыкі кінутая на падлогу сярэбраная манета звініць глуха або амаль не звініць, хутчэй скісае малако, а масла растае на вачах.

Старайцеся не дабаўляць свайму жыллю адмоўнай энергіі. Ніколі не прыносьце ў дом свой дрэнны настрой, пакіньце благія думкі за парогам — навакольныя ж прадметы ўсё гэта тут жа ўбіраюць, асабліва люстэрка. Нездарма пасля смерці чалавека іх прынята завешваць. Люстэрка трэба хоць бы раз у тыдзень мыць халоднай вадой.

Другім пасля люстэрка «накапляльнікам злосці» лічыцца падушка. Жанчыны, не плачце па начах у падушку, інакш яна кожную ноч пачне «дзяліцца» з вамі накопленай дрэннай энергетыкай! Слёзы лепш выціраць хустачкай, а потым яе або мыць, або проста выкідваць. Можна і спаліць разам з усёй злосцю, але, спальваючы, не глядзіце на полымя, інакш вы несвядома адновіце адмоўныя вобразы, і яны адродзяцца з новай сілай.

На верхнім адзенні і абутку вы таксама прыносіце адмоўную інфармацыю з вуліцы. Прыходзячы дамоў, мыйце абутак, а паліто, плашчы, курткі вешайце ў драўляную сценавую шафу. Дрэва не толькі затрымлівае негатыўную энергетыку, але і падсілкоўвае пазітыўнай.

Ніколі не накоплівайце і не захоўвайце падоўгу на антрэсолях, у кладоўках, шафах старыя рэчы: ваша жыццё стала іншым, а яны па-ранейшаму цягнуць у мінулае. У доме павінны «жыць» толькі тыя прадметы, якія вам па душы, тады неспрыяльных зон стане значна менш.

Энергетыку дома можна мяняць. Напрыклад, шкоднае ўздзеянне геапатагенных зон цудоўна нейтралізуе бурштын.

Злосць з вашага дома можа «забраць» любы высакародны метал, хай гэта будзе залаты пярсцёнак у шкатулцы або сярэбраны падсвечнік на стале. Іх толькі трэба перыядычна мыць.

Пакаёвыя расліны таксама моцна ўплываюць на энергаструктуру дома. Гаючымі здольнасцямі валодаюць японскі клён, герань, мох, традэсканцыя. Калі лісце непатрабавальнай традэсканцыі раптам пажаўцела — значыць у кватэры з'явілася крыніца цёмных сіл. Цудоўна збірае энергетычны бруд герань, робячы паветра ў пакоі свежым і духмяным. Фікус дапамагае ва ўмацаванні сям'і і садзейнічае зачаццю.

Але ёсць расліны, небяспечныя для чалавека. Скажам, модная цяпер буйная паўзучая ліяна монстэра літаральна «п'е» нашы сілы, галоўным чынам па начах.

Акрамя раслін, цудоўна карэкціруе энергетыку ў кватэры звычайная вада. У мяркуемыя зоны пастаўце на ноч шклянку з вадой, а раніцай вынесіце яе за парог і выліце так, каб вада разлілася па зямлі тонкім слоем і па магчымасці хутчэй выпарылася.

Дарэчы, калі ў вашым доме пануюць мір і каханне, а душы поўныя чыстых задум, ніякія злыя сілы тут не выжывуць.

**Таццяна АНДРЭЕВА.**

«Здоровье»

## *ФІЛЬМАТЭКА*

- **«Цырк згарэў, і клоуны разбегліся»**
- **«Не будзем праклінаць выгнанне»**
- **«Адкрыццё незнаёмцу»**
- **«Сэрца тыгра»**

Новую мастацкую кінастужку **«Цырк згарэў, і клоуны разбегліся»** перадаюць на суд гледачоў кінамайстры Расіі. Пастаноўку карціны па свайму сцэнарыю ажыццявіў рэжысёр Уладзімір Бортка.

Герой фільма — рэжысёр Мікалай Худакормаў, на парозе 50-годдзя. За яго плячыма жыццё, багатае падзеямі, — творчыя пошукі, неаднаразовыя шлюбы, дзеці, якія сталі чужымі. Здаецца, Мікалай пераступіў тую рысу, за якой усё ўжо ўяўляецца малазначным і нецікавым, пазбаўленым навізны. Засталіся глухая абыякавасць да самога сябе і старая, амаль звар'яцелая маці.

Але ёсць у Мікалая адна ідэя, якая не дае спакою. Ён павінен зняць свой галоўны фільм. І хаця сцэнарый карціны існуе толькі ў галаве, ён верыць, што гэта будзе цудоўная работа.

З энтузіязмам тапельца рэжысёр шукае грошы на свой праект. Ён увесь у даўгах, але не губляе надзеі на цуд...

Запамінальныя вобразы ствараюць у фільме Мікалай Карачанцаў, Зінаіда Шарко, Ніна Русланава, Таццяна Васільева, Ксенія Качаліна, Марыя Шукшына.

На «Масфільме» створана новая мастацка-публіцыстычная кінастужка **«Не будзем праклінаць выгнанне».** Аўтары сцэнарыя — Міхаіл Дэмураў, Вячаслаў Косцікаў і Віктар Эпштэйн, рэжысёры — Міхаіл Дэмураў і Віктар Эпштэйн.

Фільм прысвечаны праблемам рускай эміграцыі 1917—1925 гг., калі Радзіму пакінулі больш за паўтара мільёна чалавек.

Адшукаць сляды, якія вядуць з мінулага ў сённяшні дзень, — такую задачу паставілі перад сабой аўтары карціны. Яны звярнуліся да ўспамінаў сведак і ўдзельнікаў гістарычных падзей, чые лёсы, поўныя трагізму, пераплеценыя з драматычнымі эпізодамі першай сусветнай вайны, лютаўскай рэвалюцыі, кастрычніцкага перавароту, грамадзянскай вайны, масавага выгнання з краіны дзеячаў айчыннай культуры. Людзі, якія сталі ахвярамі палітычнага і ідэалагічнага процістаяння і якія жывуць сёння ў Францыі, Італіі, Германіі, апавядаюць аб пераломным для Расіі часе, аб падзеях 1917 года, аб паслярэвалюцыйным тэроры, аб эміграцыі — добраахвотна- прымусовай. Шмат увагі ўдзелена памятнай акцыі, якая атрымала назву «Філасофскі параход», у ходзе якой з Савецкай Расіі было выдварана звыш 200 вядомых філосафаў, вучоных, пісьменнікаў...

У Францыі знята мастацкая кінастужка **«Адкрыццё незнаёмцу»**. Яе паставіў Ж. Бардавіл.

Дзеянне фільма адбываецца ў Санкт-Пецярбургу ў 1907 годзе. У маладой жанчыны Наталлі няма прычын скардзіцца на лёс. У яе ёсць любімы сын і багаты муж, які дазваляе ёй жыць, як ёй падабаецца, а ад паклоннікаў няма адбою.

Аднойчы на Птушыным базары на набярэжнай Нявы яна знаёміцца з мужчынам, які можа парушыць усё яе спакойнае жыццё. Чаго можа жадаць жанчына, у якой ёсць усё? Можа быць, свабоды, але яе муж і так не вельмі надакучлівы. Але вось ён мёртвы. Ці з'яўляецца гэта супадзеннем?..

Галоўных герояў іграюць Уільям Харт, Сандрын Банэр, Аляксандр Кайданоўскі, Сяргей Юрскі, Святлана Кручкова, Вольга Папова, Ларыса Гузеева.

Змогуць паглядзець гледачы і амерыканскую мастацкую кінакарціну **«Сэрца тыгра».** Аўтар сцэнарыя — Уільям Эплгейт, рэжысёр — Джордж Шамшум.

— Ты — тыгр! — сказала Стэфані, аддаючы належнае цудоўным якасцям свайго новага сябра. А іх у Эрыка Чэйза было аж зашмат. Бадай, ён мог бы служыць эталонам ідэальнага амерыканскага юнака: і высакародны, і адважны, і справядлівы, і сціплы. Сын багатых бацькоў, ён пачаў працаваць, каб плаціць за каледж. Разам з тым займаўся ў школе ўсходніх адзінаборстваў. Юны Чэйз помніў галоўнае: ніколі не прымяняць небяспечнае майстэрства, калі ў гэтым няма неабходнасці. Але вось бяда — неабходнасць узнікала зноў і зноў...

У фільме здымаліся Тэд Ян Робертс, Джэніфер Лаёнс, Роберт Ла Сарда, Ціміці Вільямс, Дэвід Майкл, Крыстафер Крайс.

# Тытунёвая кампанія «Філіп Морыс» супраць курэння дзяцей і падлеткаў

**Менавіта такую антыпрапагандысцкую акцыю супраць курэння непаўналетніх аб'явіў Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт.**

Пакуль, праўда, праграма «Курэнне? На гэта няма часу!» пройдзе ў сталіцы і працягнецца з 20 лістапада па 20 снежня. Аднак у далейшым падобныя антытытунёвыя месячнікі плануецца праводзіць па ўсёй рэспубліцы. Указаная ініцыятыва сталічнай мэрыі атрымала права на жыццё пры спонсарскай падтрымцы кампаніі «Філіп Морыс». У горадзе, дзе, па словах начальніка ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама Генадзя Пятровіча, амаль 230 тысяч школьнікаў і падлеткаў, будуць устаноўлены «рэкламныя» шчыты з адпаведнай антырэкламнай фразай і спартыўнымі плакатамі.

Далей Генадзь Аляксандравіч заначыў, што цяперашняя антытытунёвая акцыя — вельмі важнае мерапрыемства. «У сённяшнім Мінску ўплыў навакольных і бацькоў у значнай меры вызначае выбар нашых дзяцей, уключаючы і прыняцце рашэння, курыць ці не курыць. Дзякуючы гэтай кампаніі ў нас з'яўляецца добрая магчымасць звярнуцца з пасланнем да падрастаючага пакалення мінчан з тым, што найлепшае рашэнне, якое можа прыняць падлетак, — гэта ўстрымацца ад курэння. І што яшчэ больш важна — у жыцці падлеткаў ёсць больш цікавыя рэчы, чым курэнне. Такія, як спорт».

Прадстаўнік кампаніі «Філіп Морыс менеджмент Сервісез БВ» Сяргей Коласаў у сваю чаргу сказаў: «Недапушчальнасць курэння сярод непаўналетніх — пазіцыя кампаніі «Філіп Морыс». Менавіта таму мы з гатоўнасцю прынялі прапанову Мінгарвыканкома падтрымаць акцыю, накіраваную на пераканане падлеткаў у тым, што не трэба спяшацца з прыняццем рашэння пачаць курыць. Мы цвёрда ўпэўненыя ў тым, што курэнне — выбар толькі дарослага чалавека».

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС:* *Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносін — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* **«ДЛЯ ВАС»** *— 32-44-12.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.989. Індэкс 63850.
Зак. № 6440.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12